**№ 50 (3893)**

1 ліпеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### Бесплатно

Участники Великой Отечественной войны с 1 по 5 июля могут бесплатно звонить с домашних телефонов, в отделениях связи и с выделенных телефонов госпиталей. Такой подарок ветеранам в дни празднования 70-й годовщины освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков сделала компания “Белтелеком”.

**ПРАТЭСТ**

# Беларускія апазіцыйныя партыі і рухі асуджаюць удзел расійскіх ваенных і ваеннай тэхнікі ў Парадзе Незалежнасці 3 ліпеня

### Напамін пра агрэсію

Рух “За Свабоду” выказвае рашучы пратэст супраць удзелу расійскіх вайскоўцаў у парадзе 3 ліпеня.

*“Праз свае дзеянні ўлады Беларусі ганебна і папаўзліва робяць нашу краіну дзяржавай-марыянеткай і пляцоўкай для дэманстрацыі сілы расійскай ваеншчыны,* — гаворыцца ў заяве Руху “За свабоду”. — *Запрашэнне расійскай арміі на парад у Мінску супярэчыць нейтральнаму статусу Беларусі, ставіць пад пагрозу стабільнасць і дабрабыт беларускага народа, пагражае рэгіянальнай бяспецы.*

*Расійскія сцягі і чорна-аранжавыя стужкі ў сённяшняй Еўропе і ва ўсім свеце атаясамліваюцца з агрэсіяй супраць суседняй з Беларуссю суверэннай дзяржавы — Украіны. Расійская парадная калона сёння можа значыць наўпроставую акупацыю заўтра. Гэта таксама вядзе да ўцягвання беларусаў у вайну супраць братэрскага ўкраінскага народа.*

*Нейтральная Беларусь павінна шанаваць свае войска, захоўваць гістарычную памяць і памятаць урокі Другой сусветнай вайны. А гэтыя ўрокі кажуць пра тое, што нельга гуляць у небяспечныя гульні з агрэсарам”.*

Рух “За Свабоду” лічыць, што такія парады павінны ўмацоўваць рэгіянальную бяспеку і ўзаемаразуменне. Калі на іх запрашаць прадстаўнікоў Расіі, то трэба запрашаць і прадстаўнікоў усіх суседніх краін — Украіны, Польшчы, Латвіі, Літвы, а таксама дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі. *“Мы ўсведамляем, што такія парады сёння немагчымы ў аўтарытарнай напаўізаляванай ад цывілізаванага свету Беларусі. Таму мы падзяляем справядлівае абурэнне многіх беларусаў прысутнасцю расійскіх вайскоўцаў, тэхнікі і сімволікі на вуліцах сталіцы нашай краіны”,* — гаворыцца ў заяве руху.

Рух “За Свабоду” заклікае грамадзян Беларусі памятаць пра ўрокі гісторыі і рабіць усё неабходнае, каб Беларусь стала нейтральнай дзяржавай, што будуе прыязныя адносіны з усімі суседзямі.





### Шок і выклік

Ва ўмовах, калі міжнародныя дамовы перасталі гарантаваць бяспеку, у сітуацыі, калі ва Украіне ідзе вайна, удзел расійскіх вайскоўцаў у парадзе на вуліцах Мінска выглядае шакіруючым і з'яўляецца выклікам.

Такую заяву зрабіў лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька.**

*“АГП лічыць дапушчальным прысутнасць на ваенным парадзе хіба што супрацоўнікаў дыпламатычных місій, але не ваеннаслужачых іншых дзяржаў. А наогул мы прапанавалі б цалкам адмовіцца ад танкаў на вуліцах і самалётаў над Мінскам. Грошы лепш накіраваць на ўборачную кампанію, дызельнае паліва — на запраўку трактароў і камбайнаў. А па вуліцах сталіцы пусціць дзяцей з кветкамі, шарыкамі. Бо менавіта яны (а не танкі, і тым больш расійскія салдаты) — будучыня Беларусі”,* — заявіў Анатоль Лябедзька.

Нагадаем, што для ўдзелу ў мінскім парадзе Расія накіравала ў Беларусь “Іскандэры”, “С-400”, бронеаўтамабілі “Тыгр”, верталёты “Ка-52” і самалёты “Су-34”. Напярэдадні 3 ліпеня ў Мінск таксама прыбудзе расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін. Афіцыйна ягоны візіт тлумачаць удзелам у цырымоніі адкрыцця новага музея Вялікай Айчыннай вайны.

**СТАЛІЦА**

### Аб'язджайце

*Аўтамабільны рух у Мінску 3 ліпеня будзе абмежаваны. Пра гэта ўчора паведаміў журналістам начальнік упраўлення аховы правапарадку Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС Беларусі* ***Іван Кубракоў.***

У 16.30 будзе закрыты рух па вуліцах Заснавальнікаў і Старынаўскай. Механізаваная калона пачне рух у 17.30, у сувязі з гэтым будзе закрывацца рух па праспекце Незалежнасці паэтапна па ўсім маршруце прасоўвання тэхнікі.

Потым ад праспекта Незалежнасці калона пройдзе па вуліцах Сурганава, Куйбышава і М.Багдановіча да праспекта Машэрава. Рух на праспекце Машэрава будзе закрыты ад праспекта Незалежнасці да праспекта Пераможцаў.

Акрамя таго, будзе забаронена паркоўка па абодвух баках праспекта Машэрава на ўчастку ад ракі Свіслач да вуліцы Куйбышава; на мясцовым праездзе гасцініцы “Планета”; на пляцоўцы каля дома №39 па праспекце Машэрава; па абодвух баках вуліц Гвардзейскай, Тарханава, Грыбаедава, Ігнацэнкі, вуліцы Даўмана да скрыжавання з вуліцай В.Харужай, вуліцы Старажоўскай да скрыжавання з вуліцай Заборскага.

Нагадаем, што ў гэтым годзе парад у гонар Дня Еезалежнасці ўпершыню пройдзе не раніцай, а вечарам.

**ПАЛІТКУХНЯ**

### ... Альбо браць быка за рогі

На мінулым тыдні сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” Павел Севярынец абвінаваціў кампанію “Гавары праўду!”, якой кіруе былы кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў, у тым, што яна тармозіць працэс вылучэння адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года.

— Працэс абрання “адзінага” пакуль затармазіўся з-за ўдакладнення пазіцыі кампаніі “Гавары праўду!”, — расказаў Севярынец. — Хоць, у прынцыпе, дамовіліся ўжо пра ўсё. Падрыхтаваны дакумент па працэдуры абрання адзінага кандыдата, засталося толькі ўзгадніць адзін з некалькіх метадаў абрання дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сіл. І вось ёсць пазіцыя намесніка старшыні “Гавары праўду!” Андрэя Дзмітрыева (наколькі я зразумеў, ён усе пытанні вырашае ў кампаніі, а не Уладзімір Някляеў), што ім трэба абіраць дэлегатаў праз збор подпісаў. Яны ініцыявалі кампанію “Народны рэферэндум”, збіраюць подпісы і хочуць гэтак жа дэлегатаў вылучыць. Адным словам, невядома навошта зацягваюць працэс... Усё ўпёрлася ў аднаго чалавека. І зараз трэба выбіраць адно з двух: альбо абіраць адзінага кандыдата без “Гавары праўду!”, альбо браць быка за рогі (Някляева) і спрабаваць вырашыць сітуацыю.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**СКАНДАЛ**

# Новая справа за абразу Аляксандра Лукашэнкі

*Праваабаронцы* ***Кацярыне САДОЎСКАЙ*** *пагражае зняволенне за абразу Аляксандра Лукашэнкі. Падставай для крымінальнай справы стаў запіс у кнізе заўваг і прапаноў Савецкага раённага суда Мінска. Кацярына Садоўская пасля таго, як не змагла патрапіць на судовыя пасяджэнні па справах актывістаў, якіх дзясяткамі затрымлівалі напярэдадні хакейнага чэмпіянату, пакінула запіс наконт “злачынных загадаў псіхічна хворага чалавека”. Прайшло больш за месяц, і справа закруцілася.*

Гэта другая па ліку крымінальная справа супраць Кацярыны Садоўскай. У 2006 годзе яе ўжо абвінавачвалі ў паклёпе і абразе Аляксандра Лукашэнкі, а падставай стаў ліст, знойдзены падчас ператрусу. Тады праваабаронца правяла месяц у псіханеўралагічным дыспансеры, дзе яе прызналі псіхічна здаровай, і 10 месяцаў зняволення ў Гомельскай жаночай калоніі. Суд нават не ўлічыў, што пенсіянерка перанесла складаную анкалагічную аперацыю і не закончыла лячэнне. Медыкі вымушаны былі аказваць ёй дапамогу ў турэмным шпіталі. Садоўская выйшла на волю падчас масавага вызвалення палітвязняў, калі вырашалася пытанне аб гандлёвых прэферэнцыях Беларусі на еўрапейскіх рынках, але цяпер зноў мае шанец трапіць за краты.

— *Я не першы раз зрабіла такі запіс у судовай кнізе заўваг. Але ў Ленінскім, Першамайскім, Цэнтральным, Фрунзенскім раёнах розуму хапіла не даводзіць гэтую сітуацыю да публікі,* — расказвае Кацярына Садоўская. — *А тут спрацавала прымаўка: “Паслужлівы дурань горшы за ворага”. Што ж, мне нічога іншага не застанецца, як даказваць сваю праўату. У такім выпадку буду патрабаваць правядзення экспертызы таго чалавека, якога я нібыта абразіла, прычым пры ўдзеле міжнародных экспертаў. Я буду прасіць далучыць фільм расійскага тэлебачання “Крестный батька” і ранейшыя публікацыі псіхіятраў у газеце “Свабода”. Няхай даюць ім ацэнку эксперты. Мяне ў свой час трымалі ў “Навінках”, стацыянарна абследавалі і прыйшлі да высновы, што я псіхічна здаровая. І нічога страшнага. Дык няхай чалавек, пра якога столькі пісалі ў гэтым плане, пройдзе экспертызу і здыме такім чынам усе пытанні.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ЧУЛІ?**

### Падоўжаны на год

Дэлегаты 26-й сесіі Савета ААН па правах чалавека прынялі пастанову падоўжыць мандат спецыяльнага дакладчыка па Беларусі **Міклаша Харашці.**

*“Савет пастанаўляе падоўжыць на адзін год мандат спецыяльнага дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і просіць спецыяльнага дакладчыка прадставіць даклад аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Савету па правах чалавека на яго 29-й сесіі і Генеральнай асамблеі на яе 70-й сесіі”,* — гаворыцца ў рэзалюцыі.

Рэзалюцыю падтрымалі 24 дэлегацыі. 7 членаў Савета выступілі супраць і 16 — устрымаліся.

У рэзалюцыі выказваецца глыбокая занепакоенасць з прычыны “працягу парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі”. Аўтары рэзалюцыі падкрэслілі, што гэтыя парушэнні *“носяць сістэмны і сістэматычны характар”.* Яны звярнулі ўвагу на прымяненне катаванняў у беларускіх турмах. У дакуменце гаворыцца аб адсутнасці *“рэакцыі ўрада Беларусі на выпадкі гвалтоўных знікненняў палітычных апанентаў, беспакаранасці асоб, якія парушаюць правы чалавека, аб парушэннях працоўных правоў, няўдзеле апазіцыйных палітычных партый у працы парламента”.*

Рэзалюцыя настойліва заклікае ўрад правесці выбарчую рэформу, а таксама ўсёабдымную рэформу сектара правасуддзя.

Нагадаем, што беларускі бок адмаўляецца супрацоўнічаць з Міклашам Харашці.

**РАСКОЛ**

### Папсаванае адзінства

*28 чэрвеня ля манумента Дружбы Народаў на мяжы трох дзяржаў — Беларусі, Расіі і Украіны — было пуста. Упершыню з 1969 года, калі тут распачаліся фэсты пад назвай “Славянскае адзінства”.*

Сёлета ў сувязі з анексіяй Расіяй украінскага Крыма і падтрыманнем збройнага канфлікту ў Данецкай і Луганскай абласцях Украіна адмовілася ад удзелу ў традыцыйным фэсце “Славянскае адзінства-2014”. Кіраўнік Чарнігаўскай гарадской адміністрацыі Украіны Андрэй Сакалоў заявіў, што “не вельмі этычна” і “не зусім шчыра” будзе сустракацца сёлета ля манумента Дружбы Народаў.

Тым часам Бранская абласная адміністрацыя і Міністэрства культуры Расіі, да якіх сёлета перайшла чарга быць арганізатарамі фэсту, шырока яго рэкламавалі. Пісалі пра традыцыйны мітынг ля манумента Дружбы, лагер славянскай моладзі, супольныя выступленні народных творчых калектываў Гомельскай, Чарнігаўскай і Бранскай абласцей. Аднак фестываль не адбыўся.

**ЗАПРАШЭННЕ**

### «Ляпіс Трубяцкі» сыграе развітальны канцэрт у Вільнюсе

*23 жніўня гурт “Ляпіс Трубяцкі” ў межах развітальнага тура “Клоуна нет” дасць канцэрт у Вільнюсе на адкрытай пляцоўцы клуба Loftas, разлічанай на 4,5 тысячы гледачоў. Беларусы маюць магчымасць атрымаць бясплатныя візы.*

Як і было абвешчана некалькі месяцаў таму, з 1 верасня “Ляпіс Трубяцкі” спыніць сваё існаванне. Тур “Клоуна нет — Happy End Tour” стане найкарацейшым у гісторыі гурта — акрамя Вільнюса калектыў дасць развітальныя канцэрты толькі ў Маскве, Піцеры і Кіеве.

Дзякуючы падтрымцы МЗС Літоўскай Рэспублікі квіткі на гэты фэст забяспечаны бясплатнымі візамі з тэрмінам знаходжання з 22 да 24 жніўня ўключна. Падача дакументаў традыцыйна спрошчана.

**Вера ВІР.**

**КТО ЕСТЬ КТО**

### Лилия Ананич назначена министром информации

В этой должности Ананич сменила Олега Пролесковского, который был освобожден от должности 4 июня.

Лилия Ананич родилась в 1960 году в деревне Леоново Борисовского района Минской области. В 1982 году окончила Белорусский государственный университет, в 2000 году — Академию управления при президенте. В 1982—1984 годах работала фотокорреспондентом минской районной газеты “Шлях камунізму”. В 1984—1992 годах — редактор, старший редактор Научно-исследовательского института средств автоматизации (Минск).

В 1992—1996 годах — редактор, главный специалист, заместитель начальника управления средств массовой информации Министерства культуры и печати Беларуси. В 1996—2001 годах была заместителем начальника, начальником информационно-аналитического управления Государственного комитета Беларуси по печати. В 2001—2003 годах — заместитель министра информации Беларуси, с 2003 года — первый заместитель министра информации.

**КСТАТИ**

**Геннадий Владимирович ПАЛЬЧИК** назначен председателем Высшей аттестационной комиссии,

**Петр Петрович КАЗАКЕВИЧ** — заместителем председателя Президиума Национальной академии наук Беларуси,

**Андрей Григорьевич ЕРМОЛОВИЧ** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Исламской Республике Пакистан,

**Александр Леонидович ПОНОМАРЕВ** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Сирийской Арабской Республике

**Анатолий Алексеевич СТЕПУСЬ** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Эстонской Республике,

**Виктор Адамович ШИХ** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Австралийском Союзе, Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Новой Зеландии по совместительству,

**Илона Александровна ДУРАСОВА** — членом Правления Национального банка Республики Беларусь,

**Роман Александрович ГОЛОВЧЕНКО** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Королевстве Саудовская Аравия по совместительству,

**Дмитрий Георгиевич КУПТЕЛЬ** — Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Республике Кения по совместительству.

Александр Лукашенко также дал согласие на назначение:

**Василия Анатольевича ЧЕРЕДНИКА** — председателем Сенненского райисполкома,

**Ивана Анатольевича НАУМЕНКО** — председателем Жлобинского райисполкома,

**Алексея Александровича ЯСОНОВА** — председателем Кормянского райисполкома,

**Александра Михайловича НАВНЫКО** — председателем Петриковского райисполкома,

**Виктора Михайловича КОЛЕДУ** — председателем Логойского райисполкома,

**Владимира Владимировича ПИСКИЖЕВА** — председателем Горецкого райисполкома,

**Александра Антоновича КУЛИКА** — первым заместителем министра лесного хозяйства,

**Вадима Анатольевича БОГУША** — первым заместителем министра образования,

**Дмитрия Николаевича КРУТОГО** — заместителем министра экономики,

**Валерия Леонтьевича КУЛАКОВСКОГО** — первым заместителем министра юстиции,

**Евгения Иосифовича КОВАЛЕНКО** — заместителем министра юстиции,

**Алексея Александровича ВАСИЛЬЕВА** — первым заместителем председателя Государственного комитета по имуществу,

**Александра Валентиновича КЕРНОЖИЦКОГО** — заместителем начальника департамента финансов и бюджетной политики Постоянного комитета Союзного государства,

**Федора Федоровича БАЛЕЙКО** — членом Брестского облисполкома,

**Сергея Михайловича ФЕОКТИСТОВА** — членом Витебского облисполкома,

**Вадима Ивановича СИНЯВСКОГО** — членом Гродненского облисполкома,

**Александра Александровича КОВАЛЬЧУКА** — членом Могилевского облисполкома.

КОЛОНКА ЮРИСТА



*На вопросы читателей “Народной Воли” отвечает юрист правозащитного центра “Правовая помощь населению” (г.Киев, Украина)* ***Александр МИКУЛИН.***

## Мужа выселяйте через суд

***В связи со вступившим в силу новым Жилищным кодексом подскажите процедуру выписывания (лишения права проживания) бывшего супруга, не имеющего доли собственности в квартире, а только право проживания, так как квартира была подарена мне родителями.***

***Татьяна Макушина, г.Лида.***

В соответствии со статьей 85 Жилищного кодекса Республики Беларусь подлежат выселению в судебном порядке без предоставления другого жилого помещения по требованию собственника жилого помещения или других заинтересованных лиц бывшие члены семьи собственника жилого помещения, проживающие совместно с ним и не имеющие доли в праве общей собственности на занимаемое жилое помещение.

Таким образом, для выселения Вашего бывшего супруга необходимо обратиться в суд с иском о выселении по месту жительства ответчика.

## Алименты с выигрыша в казино не взыскиваются

***Я в разводе. Уплачиваю алименты на ребенка. Выиграл в казино 8 миллионов рублей. Обязан ли я уплачивать с них алименты?***

***Дмитрий Б., Минск.***

Пунктом 1 Постановления Совета министров от 12.08.2002 №1092 “О перечне видов заработка и (или) иного дохода, из которых производится удержание алиментов на содержание несовершеннолетних детей” утвержден перечень видов заработка и (или) иного дохода. Согласно п.3 вышеназванного перечня, получение выигрыша в казино не является другим видом дохода, с которого удерживаются алименты на содержание детей. Значит, по закону, все 8 миллионов Вы можете оставить себе. А как по совести — решать Вам.

## Как взыскать задолженность по договору займа?

***Подскажите, пожалуйста, алгоритм взыскания задолженности по договору займа при условии, что решение суда по данному делу уже вынесено.***

***Антон Алексеенко, Минск.***

Если решение суда вступило в законную силу и добровольно не исполнено, Вам следует обратиться в суд, вынесший решение, для выписки исполнительного листа. После чего судебный исполнитель возбуждает исполнительное производство.

Вы можете по желанию в любое время знакомиться с исполнительным производством. Можете подавать заявления, ходатайства, предоставлять сведения о наличии у должника имущества, ходатайствовать о применении мер по обеспечению исполнения исполнительного документа: о наложении ареста на имущества, изъятии имущества должника, находящегося у него и иных лиц, запрещении должнику пользоваться принадлежащим ему имуществом, изъятии правоустанавливающих документов, о временном ограничении права на выезд из страны, на управление транспортными средствами и иных мерах. Вы также можете обжаловать действия судебного исполнителя.

Исполнительный лист по делу может быть предъявлен к принудительному исполнению в течение трех лет с момента вступления судебного постановления в законную силу (кроме случаев немедленного исполнения, когда исполнительный лист выдается немедленно по исполнению).

## Сначала заявление в милицию, потом иск в суд

***Я оформила кредит на себя и передала сумму денег другому человеку (он пообещал выплачивать кредит). Никаких расписок я у него не брала. Однако он перестал выплачивать кредит, а у меня нет возможности это делать. Могу ли я доказать, что деньги отдала ему, и заставить его погасить кредит?***

***Диана Медведчук, г.Солигорск.***

Судя по тому, как сформулирован Ваш вопрос, доказать факт передачи вами денег другому лицу Вы не можете. Поэтому обратитесь в милицию с заявлением, в котором постарайтесь представить любые доказательства факта передачи денег и использования их в личных целях тем, для кого Вы эти деньги взяли в банке в кредит. Возможно, есть свидетели передачи денег или кто-то, кому известно об этих обстоятельствах, возможно, сохранились записи, телефонные разговоры, переписка, а также доказательства того, что в указанный период ваш знакомый приобрел недвижимость, транспортное средство или любую другую дорогостоящую вещь или услугу (например, отдыхал за границей и т.д.). После рассмотрения заявления Вы можете подать иск в суд с требованиями о взыскании суммы.

В любом случае Вам придется бороться за свои права. Не исключено, что в его действиях имеют место признаки мошенничества. Может случиться, что в такой ситуации Вы оказались не одна.

## Не менее 30 процентов заработка

***Какую максимальную сумму могут высчитывать из зарплаты за долги перед банками?***

***Артем Волк, г.Борисов.***

0Статья 108 Трудового кодекса Республики Беларусь предусматривает, что при каждой выплате заработной платы общий размер всех удержаний не может превышать 20 процентов.

При удержании из заработной платы по нескольким исполнительным документам за работником должно быть сохранено не менее 50 процентов заработка.

В любом случае, за работником должно быть сохранено не менее 30 процентов заработка.

ПРАБЛЕМА!

# Баршчэўнік... наступае і перамагае

У вайне паміж людзьмі і баршчэўнікам пакуль перамагае апошні. Да такой высновы прыходзяць і камунальныя службы, і навукоўцы. Вайна доўжыцца некалькі гадоў. У людзей ёсць зброя — бензакосы і гербіцыды, а ў расліны — толькі яе ўласнае насенне. І тое, што цэлыя інстытуты распрацоўваюць атруту для знішчэння расліны, а камунальныя службы і работнікі розных установ косяць яе пад корань, не дае падстаў спадзявацца, што людзі пераможуць у гэтай вайне. Штогод дзясяткі чалавек звяртаюцца па медыцынскую дапамогу з нагоды апёкаў баршчэўнікам. Больш за палову з іх — дзеці і падлеткі.



Акадэмік М.Ламан занепакоены...

Баршчэўнік з’яўляецца даволі небяспечнай для чалавека раслінай, хаця раней у народзе яго называлі дударнікам. Сцёблы расліны высушвалі і рабілі з іх дудачкі, у некаторых вёсках з баршчэўніка выраблялі прыгожыя вазачкі і нават мастацкія кампазіцыі з кветкамі. Але і сёння далёка не ўсе ведаюць, што сок гэтай расліны выклікае даволі моцныя апёкі, сляды ад якіх не праходзяць месяцамі.

**Акадэмік Мікалай ЛАМАН,** загадчык лабараторыі росту і развіцця раслін Інстытута эксперыментальнай батанікі:

*— У нас баршчэўнік Сасноўскага (названы ў гонар даследчыка флоры Каўказа) з’явіўся ў 1950-х гадах. Яго разглядалі як перспектыўную сіласную расліну. Дарэчы, у яго шмат і карысных уласцівасцяў. Але потым, калі высветлілася, што ён лёгка дзічэе і пранікае ў натуральныя экасістэмы, ад яго вырашылі адмовіцца. Лісце і плады баршчэўніка багатыя эфірнымі алеямі, якія змяшчаюць фуранакумарыны — фотасенсібілізуючыя рэчывы, якія пры кантакце са скурай могуць выклікаць фотахімічны апёк. І калі крапіва, напрыклад, джаліць launcher ментальна, што даз...*

*— У нас баршчэўнік Сасноўскага (названы ў гонар даследчыка флоры Каўказа) з’явіўся ў 1950-х гадах. Яго разглядалі як перспектыўную сіласную расліну. Дарэчы, у яго шмат і карысных уласцівасцяў. Але потым, калі высветлілася, што ён лёгка дзічэе і пранікае ў натуральныя экасістэмы, ад яго вырашылі адмовіцца. Лісце і плады баршчэўніка багатыя эфірнымі алеямі, якія змяшчаюць фуранакумарыны — фотасенсібілізуючыя рэчывы, якія пры кантакце са скурай могуць выклікаць фотахімічны апёк. І калі крапіва, напрыклад, джаліць маментальна, што дазваляе чалавеку своечасова змяніць свае намеры і звесці непрыемнасці да мінімуму, то кантакт з баршчэўнікам спачатку ніякіх непрыемных адчуванняў не выклікае. Таму плошча паразы скуры можа быць вельмі вялікай. Нясцерпны боль пачынаецца толькі праз суткі, а часам і больш, прычым толькі пасля таго, як вы пабываеце на сонцы. Баршчэўнік можа стаць прычынай апёкаў I, II і III ступеняў.*

*Самыя моцныя апёкі баршчэўнік выклікае, сутыкаючыся з вільготным целам у гарачыя ясныя дні. Зрэшты, дастаткова нават нядоўгачасовага сонечнага ўздзеяння на ўчастак скуры, запэцканы сокам расліны. Да таго ж баршчэўнік з’яўляецца таксама дыхальным і кантактным алергенам.*

*Я нядаўна іду па сцежцы каля Першага клінічнага шпіталя, гляджу — на нядаўна скошаным баршчэўніку загарае мужчына. Ляжыць па пояс голы. Ну, я яму сказаў: “Дарэмна вы гэта робіце, у вас будуць моцныя апёкі, шрамы надоўга застануцца”. І ён здзівіўся, аказваецца, нічога пра баршчэўнік не ведаў. Трэба весці з насельніцтвам працу. Не толькі памяткі распаўсюджваць, але і пісаць у СМІ.*

Мікалай Афанасьевіч паказвае пластыкавую бутэльку на сваім стале, у якой знаходзіцца насенне баршчэўніка:

*— Вось, гэта толькі з адной расліны. Бачыце? Калі баршчэўнік з’явіўся на адным месцы і паспеў скінуць насенне, то змагацца з ім давядзецца не менш за 15 гадоў. Таму галоўнае — не даць яму скінуць насенне. Касіць і касіць.*

***— Мы можам назіраць цэлыя масівы не толькі ля трасы, каля нейкіх сметнікаў, але і ў самой сталіцы. Чаму так атрымліваецца? Хто вінаваты?***

*— Усё не так адназначна. Абвінавачваць улады ў бяздзейнні нельга. Значным крокам стала прыняцце ў 2008 годзе Саветам міністраў “Плана дзеянняў па прадухіленні і мінімізацыі шкоды ад распаўсюджвання шкоднага чужароднага віду раслін — баршчэўніка Сасноўскага” і адпаведнай пастановы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.*

*Гарадская тэрыторыя падзелена паміж рознымі ўстановамі. Часта атрымліваецца, што ў адным раёне пакасілі, а за плотам якой-небудзь установы расце сабе баршчэўнік. І толку з таго, што тут яго скасілі. Падзьмуў вецер — і насенне ўжо за сто, дзвесце метраў. А ўжо пра даўгабуды ці закінутыя аб’екты, дзе няма гаспадароў, і гаварыць няма чаго.*

Сапраўды, сёння ў Мінску можна назіраць цэлыя плантацыі гэтай расліны. Узяць, напрыклад, тэрыторыю каля Шпіталя хуткай дапамогі. Бачна, што гіганцкія расліны касілі літаральна пару дзён таму. Лісце яшчэ не паспела падсохнуць. Калі прайсці некалькі метраў сцяжынкай па скошаным баршчэўніку, то можна патрапіць у “джунглі” гэтай расліны. Відаць, касцам далі загад ачысціць тэрыторыю толькі ў зоне бачнасці. А далей? Баршчэўнік да самай рэчкі Лошыцы стаіць, як лес. Некаторыя экзэмпляры дасягаюць трох метраў, можа, і болей, але мераць асаблівага жадання не ўзнікае, тым больш без адмысловай экіпіроўкі.

І кіламетра не будзе да Шпіталя хуткай дапамогі.

Каля рэчкі некалькі падлеткаў і маладая мама з каляскай. Жанчына прадставілася Валерыяй:

*— Я ў дзяцінстве спазнала ўсю “любату” баршчэўніка. Мы яго называлі “парасончыкам”. Мы з сяброўкамі яго аднойчы наламалі і бегалі, гулялі тут каля рэчкі. Ну а потым у нас пухіры на скуры. У мяне былі моцныя апёкі на руках і на шыі, а ў маёй сяброўкі Юлі — на нагах. Нас мамы адвялі да доктара і потым лячылі. Калі пухіры лопнулі, стала яшчэ больш балюча. А потым плямы ледзь не фіялетавага колеру на тых месцах засталіся. І доўга яны не праходзілі. Я думала, што так на ўсё жыццё застанецца. Перажывала. Сваю дачку ўжо буду вучыць, што гэта небяспека. У нас тут амаль кожны старажыл сутыкаўся і мае досвед кантакту з “парасонам”. Але часам бачу, што людзі недасведчаныя зрываюць яго голымі рукамі...*

Кіраўнік аддзела ўтрымання і добраўпарадкавання аб’ектаў зялёнай гаспадаркі УП “Мінскзеленбуд” Анжаліка Пузанкова называе лічбу: 228 гектараў. На такой плошчы ў сталіцы стала замацаваўся баршчэўнік. Для параўнання, у мінулым сезоне баршчэўнік ў Мінску рос на 129 гектарах.

Як бачым, злая расліна пераможна крочыць па краіне. І больш упэўнена адчувае сябе на поўначы Беларусі — у Браслаўскім, Мёрскім, Віцебскім, Ушацкім і Шаркоўшчынскім раёнах. Толькі на Браслаўшчыне выяўлена каля 220 лакальных ачагоў “травяністых лясоў”. Ва Ушацкім і Віцебскім раёнах плошчы суцэльнага распаўсюджвання баршчэўніка дасягаюць 500 гектараў. У Мінску зафіксавана каля 400 папуляцый “парасоніка”, а самыя праблемныя мікрараёны — Лошыца, Чыжоўка, Курасоўшчына, а таксама Малінаўка, каля кальцавой. Аднак і іншыя раёны сталіцы не ў меншай небяспецы. І прычынай таму, як ні дзіўна, новабудоўлі. Справа ў тым, што з будаўнічай пляцоўкі здымаюць ўрадлівы пласт глебы, якую потым развозяць па ўсім горадзе на падсыпку ўздоўж тратуараў, слупоў, пры закладцы новых газонаў.

Эколагі, камунальшчыкі, навукоўцы ўжо зразумелі, што праблему можна вырашаць толькі сумеснымі намаганнямі. Але на практыцы гэтага дабіцца пакуль не могуць. Можа, наспела неабходнасць прыняць нейкія новыя захады? Беларусь не адзіная краіна, у якой інвазіўныя расліны склалі сур’ёзную экалагічную праблему. Дарэчы, вінаватым у распаўсюджванні баршчэўніка быў “бацька народаў” і “галоўны батанік краіны” СССР Іосіф Сталін. Аднойчы, даведаўшыся, што ў Паўночнай Амерыцы баршчэўнік з’яўляецца каштоўнай кармавой культурай, таварыш Сталін асабіста загадаў разводзіць яго паўсюдна. Так з пустазелля баршчэўнік ператварыўся ў культурную расліну. Справу Сталіна па вырошчванні баршчэўніка працягнуў Мікіта Хрушчоў, а затым і Леанід Брэжнеў. У 1970-х гадах баршчэўнік параілі вырошчваць палякам, аднак мясцовым жывёлаводам гэта не спадабалася, паколькі малако кароў аддавала горыччу. А потым яшчэ і высветлілася, што расліна атрутная. І хоць вырошчваць баршчэўнік перасталі, там яго ўсё яшчэ называюць “помста Сталіна”. Сёння ў Нямеччыне, Чэхіі, Скандынаўскіх краінах і Эстоніі дзейнічаюць ўрадавыя і грамадскія праграмы барацьбы з баршчэўнікам.

Што да цяперашняга сезона, то ён, як назло, выдаўся на рэдкасць спрыяльным для расліны, бо дажджы робяць сваю справу. Колькі спатрэбіцца пацярпелых з апёкамі людзей, каб праграма барацьбы з атрутай запрацавала на поўную моц?

**Любоў ЛУНЁВА.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Пачалася кампанія ў абарону беларускай мовы праз Канстытуцыйны суд

*Сябры грамадзянскай ініцыятывы “Рада беларускай інтэлігенцыі”, у тым ліку вядомыя айчынныя грамадскія дзеячы паэты Анатоль Вярцінскі і Сяргей Законнікаў, пісьменнік Эрнэст Ялугін, мовазнаўца Лявон Баршчэўскі, кінадраматург Уладзімір Халіп, кінарэжысёр Уладзімір Колас і генерал Валерый Фралоў, падпісалі зварот у Канстытуцыйны суд у абарону беларускай мовы.*

Узор звароту заяўнікаў — грамадскіх актывістаў і іх аб’яднанняў, рухаў, ініцыятыў і палітычных партый у Канстытуцыйны суд падрыхтаваў старшыня юрыдычнай камісіі рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб’яднання “Беларускі Хельсінкскі камітэт” **Гары Паганяйла** разам з сябрамі БХК у парадку раздзела 24 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб канстытуцыйным судаводстве”.

Гары Паганяйла адзначае, што ў апошнія гады адбываецца моцны ціск на беларускую мову з боку рускай. Дзяржаўная беларуская мова — мова тытульнай нацыі Беларусі, беларусаў, якія складаюць 84 працэнты насельніцтва краіны, — паступова страчвае свае пазіцыі і выціскаецца з розных сфер ужытку, у тым ліку з дзяржаўных структур, адукацыі, справаводства, судаводства, арміі і абслугоўвання насельніцтва. Справа дайшла да таго, што на пачатку XXI стагоддзя ЮНЕСКА аднесла беларускую мову да моў, якім пагражае знікненне.

І на справе сфера ўжытку беларускай мовы сёння абмяжоўваецца толькі сям’ёй, набажэнствамі шэрагу канфесій, навуковымі даследаваннямі і выданнямі па гісторыі і культуры, а таксама невялікай колькасцю твораў мастацкай літаратуры — айчыннай і перакладной. У краіне няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе выкладанне ўсіх прадметаў вялося б выключна па-беларуску, з 200 тысяч прававых актаў толькі 3,1 працэнта выдадзены на беларускай мове, па-беларуску амаль не праводзяцца пасяджэнні вышэйшых дзяржаўных органаў Беларусі.

Такія падыходы парушаюць канстытуцыйны прынцып роўнасці абедзвюх дзяржаўных моў — беларускай і рускай, прыводзяць да дамінуючага ўжывання рускай мовы за кошт беларускай і могуць быць ацэнены як дыскрымінацыйныя. Усё гэта — жахлівыя рэчы для нацыянальнай дзяржавы, якая абвясціла сябе незалежнай, сацыяльнай, прававой і дэмакратычнай.

Як да ініцыятывы могуць далучыцца простыя беларусы, чытайце ў бліжэйшых нумарах “Народнай Волі”.

ЧУЛІ?

## Падчас чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусь завезлі адзёр

*Пра гэта паведаміў загадчык супрацьэпідэмічнага аддзялення Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя* ***Дзмітрый Галоцік.***

Паведаміць якія-небудзь падрабязнасці спецыяліст адмовіўся, адзначае БелаПАН.

Дарэчы, напярэдадні чэмпіянату, які праходзіў у Мінску з 9 па 25 мая, медыкі папярэджвалі пра магчымасць завозу ў краіну адзёру ды іншых інфекцыйных захворванняў. Яны рэкамендавалі зрабіць неабходныя прышчэпкі.

Паводле звестак санслужбы, выпадкі завознага адзёру ў Беларусі рэгіструюцца штогод. Так, у 2013 годзе адзін жыхар Мінска заразіўся ва Украіне, другі — у Расіі. Ад іх заразіліся яшчэ чатыры чалавекі, якія знаходзіліся з хворымі ў кантакце.

РЕФОРМЫ

# У Минска просыпается интерес к «Европейскому диалогу о модернизации»

Несмотря на то, что изначально официальный Минск отказывался участвовать в “Европейском диалоге о модернизации с Беларусью” (ЕДМ), в последнее время власти, кажется, все же проявляют интерес к реализации совместных с Брюсселем проектов.

Так, в ходе визита в Беларусь директора департамента России, “Восточного партнерства”, Центральной Азии, регионального сотрудничества и ОБСЕ Европейской службы внешних действий **Гуннара Виганда** 28 мая в Минске прошел первый раунд консультаций между Беларусью и Евросоюзом по вопросам модернизации.

## От неприятия — к консультациям

Напомним, программа ЕДМ была одобрена Советом ЕС 23 марта 2012 года. Она предусматривала многосторонний обмен взглядами и идеями между ЕС и представителями белорусского гражданского общества, политической оппозиции о реформах, необходимых Беларуси, развитии ее отношений с ЕС и о возможной поддержке со стороны Евросоюза.

Диалог изначально был сосредоточен на четырех ключевых сферах: политическая реформа; реформа судебной системы и человеческие контакты; вопросы экономической и отраслевой политики; торговля и рыночные реформы. Официальный Минск от участия в программе отказался.

*“Мы не участвуем в европейском диалоге о модернизации, который был запущен без участия представителей Беларуси и без консультаций с белорусским правительством”,* — заявила заместитель министра иностранных дел **Елена Купчина** в сентябре прошлого года.

Однако сейчас очевидно, что позиция официального Минска претерпевает некоторые изменения. Стороны в формате консультаций нащупывают приемлемый формат сотрудничества в вопросах модернизации.

Беларусь на переговорах 28 мая представляла та же Купчина, в состав делегации ЕС, кроме Виганда, вошли директор по вопросам политики соседства Генерального директората по развитию и сотрудничеству Еврокомиссии **Михаэль Кёлер**, глава представительства ЕС в Беларуси **Майра Мора**, эксперты департамента Еврокомиссии по экономике и финансам, предпринимательству и промышленности, развитию и сотрудничеству.

По информации пресс-службы МИД Беларуси, главной целью консультаций по модернизации является *“обозначение лучшей будущей формы взаимодействия между правительством Республики Беларусь и Европейским Союзом”.* Состоялось предметное обсуждение вопросов развития малого и среднего предпринимательства, макроэкономической политики, управления экономикой, приватизации, реструктуризации финансовой системы Беларуси.

## «Реформум»: что за новым брендом?

Стоит отметить, что на старте ЕДМ часть белорусской политической оппозиции заявляла о желании участвовать в программе и выступить заказчиком реформ. Однако очевидно, что в нынешней политической ситуации провести какие-либо реформы в Беларуси без согласия и участия властей невозможно. Что касается работы в экспертных группах в рамках ЕДМ, то там оппозиция ничем особо не выделилась. По сути, инициатива Брюсселя медленно угасала.

Сейчас Еврокомиссия делает ставку, в частности, на проект “Реформум”, который разработан в рамках ЕДМ зарегистрированным в Вильнюсе Белорусским институтом стратегических исследований (BISS).

Проект рассчитан на два года и будет состоять из четырех полугодовых циклов. В рамках каждого цикла представители власти, бизнеса, гражданского общества и общества в целом будут формировать символический заказ экспертам, которые в свою очередь выработают предложения для реализации этого заказа.

Как подчеркнул академический директор BISS **Алексей Пикулик**, проекты реформ должны быть релевантными, действительно полезными для страны, реализуемыми независимо от политической обстановки, выполнимыми силами экспертного сообщества, а также лежать в тех областях, в которых у Европы накоплен большой опыт (планируется “интеллектуальный импорт”, привлечение экспертов из ЕС).

При этом для политической оппозиции специальной ниши в “Реформуме” не предусмотрено. Хотя двери для партий и движений открыты, но “Реформум” позиционируется как максимально деполитизированный проект. И хотя это лишь проект в рамках ЕДМ, многими он воспринимается как замена так толком и не начавшегося “Европейского диалога о модернизации”.

## Российский фактор тоже мог сработать

Политолог **Алесь Логвинец** обращает внимание на то, что интерес Минска к диалогу с ЕС по вопросам модернизации проявляется в свете нового потепления отношений с Европой.

*“Понятно, что каких-то значимых результатов не будет,* — сказал эксперт в интервью БелаПАН. — *В то же время мне кажется, что параллельно развиваются процессы, которые без этого не развивались бы: есть техническое сотрудничество властей с ЕС, обсуждается соглашение об упрощении визового режима и так далее. Все это идет такой пакетной инициативой, мне кажется”.*

По его мнению, Минск пересмотрел свое отношение к ЕДМ и сотрудничеству с ЕС в том числе и из-за “не совсем однозначных отношений с Россией”.

*“Ситуация меняется, и властям нужно для баланса российского вектора иметь отношения и с ЕС. Этого ожидает, как мне кажется, и белорусское общество”,* — отмечает собеседник БелаПАН.

ЕС же исходит из логики, что, развивая ЕДМ, и в частности проект “Реформум”, удастся в какой-то мере объединить процессы, происходящие во власти и в гражданском обществе.

В то же время Логвинец сомневается, что власти Беларуси будут готовы к радикальным реформам во всех сферах.

*“Возможно, пойдут на какие-то реформы в экономической сфере. В политической сфере со стороны властей пока вижу только доказательства того, что они хотят заморозить развитие политических процессов в Беларуси”,* — сказал политолог.

## Потенциал сотрудничества ограничен спецификой политического режима

Политолог **Юрий Чаусов** отмечает, что пока сложно комментировать перспективы “Реформума” и ЕДМ в целом.

*“Этот проект только начался, как и вторая фаза ЕДМ. И пока не очень публично развивается. Так что стоит дождаться первых результатов”,* — отметил собеседник *БелаПАН*.

При этом он подчеркивает, что если будет политическая воля, то проекты, разработанные в рамках ЕДМ, могут быть включены “в состав диалога в широком плане между Минском и Европой”.

*“Если же политической воли не будет и потепления в отношениях в связи с этим не наступит, то судьба новой фазы ЕДМ будет такой же, какой была у первой фазы. Тогда это был не диалог, а монолог, потому что власти от участия отказались”,* — сказал Чаусов.

Предложенная сейчас структура инициативы может больше соответствовать интересам официального Минска. Кроме того, этот проект может быть имиджево выгоден белорусским властям, в том числе и накануне президентской кампании.

В то же время, подчеркивает Чаусов, вопрос о проведении или непроведении реформ решается в Беларуси *“отдельно на политическом уровне”.*

*“Наработки в рамках “Реформума” и ЕДМ могут быть использованы, но сами по себе подтолкнуть Минск к принятию каких-то решений о реформах вряд ли могут”,* — резюмировал Чаусов.

**Татьяна КОРОВЕНКОВА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
1 ЛІПЕНЯ 2014 г.

ЗАБЫТЫЯ ІМЁНЫ

# Калі паэту адрываюць крылы

## Трагедыя Віктара Казлоўскага, якога называлі беларускім Маякоўскім

*Кучаравая капа валасоў, высокі лоб, выразныя вочы — ён быў прыгажуном і, напэўна, ведаў аб гэтым. Адчуваў па тых позірках, якія кідалі на яго дзяўчаты. Асабліва калі апранаў белую кашулю. Ці гарнітур, таксама белы, што дзіўна пасаваў да цёмных валасоў і пранізлівых вачэй. Мне хацелася б напісаць: пранізліва сініх вачэй. Ці — пранізліва карых. Але я не ведаю, якога яны былі колеру.*

*Я шмат чаго не ведаю пра яго — у тым ліку і самага галоўнага: ці стаў бы ён геніем беларускай літаратуры — упоравень з Купалам і Коласам?*

*Затое я ведаю, што Бог даваў яму такі шанец — белыя крылы паэтычнага таленту.*

*Але чорная эпоха і людзі з чорнай душой падрэзалі крылы.*

*Я хачу распавесці пра трагічны, поўны загадак лёс паэта Віктара Казлоўскага, якога на ўздыме творчай кар'еры называлі беларускім Маякоўскім.*

### Чаму Вінцусь стаў Віктарам — загадка першая

У Мрочках — невялікай вёсцы на Уздзеншчыне — прачынаюцца з першымі пеўнямі і працуюць да самага змроку. Такая была завядзёнка і ў сям'і Казлоўскіх, у якой 6 верасня 1905 года нарадзіўся Вінцусь — шостае, ды не апошняе дзіця. Хлопчык рос не толькі прыгожым, але і разумным: чытаў усе кнігі, што траплялiся пад руку, сам пачаў складаць вершы. Адправіў аднойчы ў газету спробу пяра, а яе надрукавалі і выслалі ганарар. Ну як тут не рыфмаваць далей?!

Скончыў сямігодку — далі накіраванне на Слуцкі рабфак. Без шкадавання ён мяняе бацькоўскі плуг на падручнікі — гэта шанец, акенца ў вялікую паэзію.

Паспяхова скончыўшы рабфак, вязе дакументы ў Мінскі педтэхнікум, хаця конкурс туды агромністы: 10 чалавек на месца. Паступае! І разам з землякамі-паэтамі Пятром Глебкам, Паўлюком Трусам, Алесем Якімовічам пасля лекцый выступае з вершамі ў рабочых калектывах.

Якуб Колас, які выкладае у тэхнікуме, звяртае ўвагу на таленавітага лірыка. Раіць вучыцца далей — паступаць на лінгвістычна-літаратурнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Натхнёны добрым наказам, Вінцусь яшчэ падчас вучобы ў БДУ рыхтуе першы зборнік паэзіі. Нават назву для яго прыдумаў і намаляваў вокладку — "Аржаныя пажары".

Дзіўна, што гэты малюнак — у адрозненне ад шматлікіх вершаў паэта — захаваўся ў віхуры эпохі. На ім справа напісана сапраўднае імя аўтара — Вінцусь Казлоўскі. А побач — другое, новае — Віктар.

Чаму вырашыў стаць Віктарам? У прынцыпе, гэтую загадку разгадаць нескладана. 1920—1930-я гады праходзілі ў СССР пад знакам барацьбы з "буржуазнай Польшчай". Такая была палітыка "самай міралюбівай на свеце" Краіны Саветаў — варагаваць з суседзямі. І чым сусед бліжэйшы, тым больш зацята пляваць яму ў талерку. Таму зусім не дзіўна, што Казлоўскі адракаецца ад "каталіцкага" імя і ў вершах горача ганьбіць польскіх паноў-эксплуататараў.

### Чаму ўз'еўся крытык Ульянаў — загадка другая

Калі табе 23 з хвосцікам — усё здаецца пад сілу! Чыставыя рукапісы Вінцусь адносіць ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР — не зялёны ж студэнт, а аўтар шматлікіх публікацый у друку. "Аржаныя пажары" — гучыць прыгожа: тут і гул жняярак на палетках, і шэпат спелых каласоў, і шоргат іржышча пад нагамі.

Выхад першай кнігі Казлоўскага анансуе часопіс "Маладняк" у 3-м нумары за 1929 год.

Але ж да таго сваё важкае слова павінен сказаць палітычны рэдактар — чырвоная вольніца для паэтаў скончылася, надышла эра чырвонай пільнасці. Рэдактарскае рэзюмэ з'яўляецца нават раней, чым анонс у "Маладняку", — 10 сакавіка 1929 года. Лапідарна-суровае: прадстаўленыя аўтарам вершы *"не звязаныя з сучаснасцю, не адбіваючыя нашага жыцця, у большасці сваёй не маюць і мастацкае каштоўнасці".* А значыць, друкаваць не мае сэнсу.

Як адрэагаваў паэт на атрыманую ацэнку? На жаль, дакументаў на гэты конт няма. Праўда, ускосныя факты даюць магчымасць здагадацца, што "першы блін камяком" не разбіў яму сэрца. Тым больш што прыспеў і прыемны сюрпрыз — пуцёўка ў Крым, у Сімеіз. Адпачыць і пабачыць маляўнічыя краявіды — такое хлопцу з Мрочак нават не мроілася!

Разлагоджаны морам паэт па вяртанні ў Мінск бярэцца за перапрацоўку зборніка — аб гэтым ў 10-м нумары за 1929 год зноў паведамляе часопіс "Маладняк". Летам 1930 года Казлоўскі аддае ў выдавецтва перароблены вершы.

Палітрэдактар Ульянаў — не, не родзіч Леніна, а цёзка па прозвішчы і, дарэчы, мінчук па паходжанні — піша другую рэцэнзію на кнігу Казлоўскага. Прычым яшчэ больш знішчальную, чым першая: *"Аўтар не пазбавіўся варожых нам настрояў — суму і тугі, сантыментальнасці. Мастацкай каштоўнасці ... вершы гэтыя таксама не маюць".*

Чаму ўз'еўся на маладога аўтара, шчыра адданага ідэям рэвалюцыі, суровы крытык? Па сваёй волі ці па нечым заказе? Дакладны адказ на гэтае пытанне, бадай, з'явіцца тады, калі даступнымі стануць не толькі дакументы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, але і сакрэтныя архівы чэкістаў.

Мы ж магчымыя адказы можам пашукаць у асобе самога Аляксандра Ульянава, якога Янка Купала назваў "вялікім правакатарам". Пра зігзагі лёсу гэтага таварыша, які на той час працаваў упаўнаважаным Наркамата замежных спраў пры СНК БССР, пісаў у "Народнай Волі" журналіст Сяргей Крапівін. Хутчэй за ўсё, цёзка правадыра проста зарабляў на свой кусок хлеба з маслам. Па прынцыпе: чым больш грахоў-заган знойдзеш у аўтара — тым таўсцейшы будзе пласт масла.

Беларускі Маякоўскі.

### Ці была ў Вінцуся дзяўчына — загадка трэцяя

Казлоўскі, прачытаўшы абразлівы водгук, не вытрымаў. На палях ульянаўскай рэцэнзіі ён піша свае заўвагі — дзе проста ў выглядзе пытальнікаў, а дзе з крыкам душы: "Не згодны", "Няпраўда".

Ды толькі пішы не пішы, сіла на баку рэдактара, а не паэта. Зломлены Вінцусь, які дзеля палітычнай мэтазгоднасці нават у пісьмах дамоў стаў часцяком называць сябе Віктарам, пачынае чарговую перапрацоўку зборніка.

Ён выкідвае падборку пра каханне, якая ў першапачатковых варыянтах займала значнае месца, і стварае нізку "ідэалагічна правільных" вершаў. Пра сацыялістычнае будаўніцтва, калгасныя трактары і нават таварыша Сталіна. Без "сантыментаў" і эпіграфа з Надсана, за якія атрымаў па зубах. І нават без ясенінскіх матываў, якія падабаліся і яму самому, і сябрам, што жартаўліва падкрэслівалі знешняе падабенства двух лірыкаў. Стыль паэта-трыбуна Маякоўскага — вось з каго пачынае ён браць прыклад, рыфмуючы радкі "лесвіцай":

*Завадскія*
*пайду*
*мураваць муры.*
*Буду цэглу ўзнімаць*
*на паверх*
*дваццаты.*
*І будзе*
*з жалезам*
*бетон гаварыць —*
*Будоўлі*
*найлепшы*
*агітатар.*

Здаецца, крытыкам дадабы такое наватарства.

Вясной 1932 года нарэшце выходзіць яго першы зборнік "Слова аб юнай краіне". Невялікі, без вершаў пра каханне — але ж дзяўчатам, калі прывёз у Мрочкі з дзясятак сігнальных экзэмпляраў, спадабаўся. Мо таму, што былі там радкі пра родную вёску:

*Маці мяне*
*Не пакліча спаць,*
*Пакуль*
*я работы свае*
*не скончу.*
*Прышрубоўваць*
*пайду я*
*рэйкі*
*да шпал*
*Ад Менску*
*да*
*...нашых Мрочак.*

У той жа год выйшлі яшчэ дзве кнігі — "Музыка працы" і паэма "Рахіль". Дзіўны факт, але ў паэме ўсё ж такі прагучала нотка кахання — да яўрэйскай дзяўчыны па імені Рахіль.

Выдуманы гэта вобраз ці рэальны? Цікавае пытанне, а яшчэ цікавейшае: ці была ў паэта любая дзяўчына? У прыгажуна і разумніка, які любіў фатаграфавацца ў позе Маякоўскага — з файкай у руцэ?

На жаль, адказу на пытанне пра асабістае жыццё паэта не дала нават пляменніца Віктара Іванавіча — мінчанка Станіслава Юльянаўна Кавалёва, якая добра памятае свайго дзядзьку, калі той разам з іх сям'ёй жыў у Мрочках.

Магчыма, каханая была. А можа, паэт так і не паспеў нікога пакахаць.

Усё яшчэ здавалася наперадзе! Малады Казлоўскі (у белай кашулі, знізу злева) разам з калегамі па пяры.

Станіслава Юльянаўна Кавалёва, пляменніца Віктара Казлоўскага, беражліва захоўвае фатаграфіі свайго дзядзькі і ўспаміны пра яго.

### Ці насілі хуліганы пагоны — загадка чацвёртая

То густа, то пуста! Аж цэлыя тры кнігі за год! Але ж і бяда не ходзіць адна. 24 ліпеня 1932 года ў газеце "ЛіМ" з'явілася разгромная рэцэнзія на першую кнігу пад красамоўнай назвай "Халтурнае слова аб юнай краіне".

*"Ва ўсім сваім зборніку аўтар ні слова не кажа пра кіруючую ролю авангарда пралетарыяту — камуністычнай партыі, якая, кіруючыся вучэннем Маркса, Леніна, арганізавала рабочую клясу і працоўныя масы на пераможную Кастрычніцкую рэвалюцыю, а пасля — на паспяховае будаўніцтва сацыялізму",* — цытую толькі частку палітычных папрокаў, выказаных крытыкамі Янкам Палескім, Паўлам Гайшуном і Янкам Хмелем.

Рэдакцыі газет, дзе яшчэ нядаўна радасна чакалі новых вершаў Казлоўскага, як па камандзе, сталі непрыступнымі цытадэлямі, некаторыя паспяшаліся па прыкладзе "ЛіМа" адзначыцца негатыўнымі водгукамі.

Ён перачытваў газетныя старонкі, мераў крокамі пакой, думаў.

І тут здарылася новая бяда.

Напалі хуліганы. Нейкім чынам пранюхалі пра атрыманыя неблагія ганарары за выданыя кнігі, падсцераглі ў лесе (?) і вельмі моцна збілі, адабраўшы ўсе грошы.

Даведаліся пра няшчасце Казлоўскага ў літаратурных колах не адразу. Пісьменнік Мікола Аўрамчык запомніў, як гэта было. Студэнты педінстытута звярнулі ўвагу, што даўно не бачна маладога паэта. Запыталіся ў Пятра Глебкі, які там выкладаў: што здарылася з Віктарам? Петр Фёдаравіч коратка патлумачыў: напалі на небараку ў лесе нейкія злыя людзі. Так моцна ўдарылі па галаве, што ён надоўга захварэў. Адчувалася, заўважае Аўрамчык, што Глебка ведаў куды больш, чым сказаў, але задаваць шмат пытанняў у тыя гады было не прынята.

Наконт эпізоду з хуліганамі пасярод лесу ў Станіславы Юльянаўны Кавалёвай ёсць свая версія: былі гэта не рабаўнікі-ўркаганы, а правакатары з органаў, якія спецыяльна падлавілі і збілі паэта. Каб застрашыць і схіліць да супрацоўніцтва з чэкістамі. Бо перад тым, як адбыўся напад, Казлоўскага выклікалі ў будынак, куды начамі чорныя "варанкі" прывозілі бязвінных людзей.

Версія Кавалёвай мне асабіста здаецца цалкам верагоднай. У страшныя часы не цураюцца страшных метадаў.

Тым больш што Казлоўскага чэкісты сапраўды вербавалі ў сексоты. Праўда, спачатку называлі свае выклікі да сябе "запрашэннем".

### Што адбылося ў кабінеце следчага — загадка пятая

Падрабязнасці таго, што здарылася з Казлоўскім ў кабінеце следчага НКУС, маглі назаўжды застацца таямніцай.

На шчасце, яшчэ пры жыцці паэта падаспела ў СССР так званая адліга, і беларускія пісьменнікі пасмялелі. Настолькі, што ўслых успомнілі раптоўна зніклага перад вайной з Мінска "беларускага Маякоўскага". Адбылося гэта, калі верыць пісьменніку Алесю Махначу, у Доме творчасці ў Каралішчавічах. Мэтры літаратуры — Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак, Аркадзь Куляшоў — вырашылі патэлефанаваць ва Уздзенскі раён: ці жывы паэт Казлоўскі?

Аказалася, на ўскраіне Мрочак у самаробнай зямлянцы зімуе дзядок з такім прозвішчам. Калі майстры пяра прыехалі сваімі вачыма зірнуць на былога калегу, то ўбачылі ложак без пасцельнай бялізны, бляшанкі ад кансерваў замест посуду, пустыя бутэлькі на стале і насцярожанага старога ў зашмальцаванай ватоўцы...

Выклікаць на шчырасць Казлоўскага ім так і не ўдалося. Насельнік зямлянкі палахліва ўціскаў галаву ў плечы пры кожным пытанні і адмоўчваўся. Хаця ад дапамогі не адмовіўся. Падзякаваў за новы касцюм, які стаў апранаць толькі па вялікіх святах. Узрадаваўся выдзеленай сціплай пенсіі. Перасяліўся з зямлянкі ў невялічкую хатку, якую збудаваў паэту калгас.

Разгаварыць пустэльніка пашчасціла паэтам Паўлу Пруднікаву і Станіславу Шушкевічу — мо таму, што самі пацярпелі ад рэпрэсій.

І вось што аказалася. Чэкісты настойліва прапаноўвалі Вінцусю... даносіць на калег. Ламалі цераз калена, чаргуючы пагрозы з угаворамі. Пасля аднаго з допытаў ён выйшаў на вуліцу — ад крыкаў следчага кружылася галава. "Я не стукач!" — стаў паўтараць кожнаму сустрэчнаму. Дайшоўшы да паставога міліцыянера, урэпіўся ў яго і закрычаў у твар, што не будзе стукачом. Міліцыянт выклікаў "хуткую", урачы завезлі няшчаснага ў псіхбальніцу. Там лячыўся мо цэлы год. З Белрадыёцэнтра, дзе ён працаваў літработнікам, Віктара звольнілі, газеты перасталі друкаваць вершы. Кватэрная гаспадыня, якой ён завінаваціўся за жытло, напісала яго братам у Мрочкі.

Далей версіі розных апавядальнікаў разыходзяцца. Паводле ўспамінаў аднавяскоўцаў, родныя браты паехалі ў Мінск і забралі Віктара ў вёску. А вось пляменніца Станіслава Кавалёва распавяла, што прывезлі ў Мрочкі ледзь жывога Віктара самі пісьменнікі — яна, на жаль, не запомніла іх прозвішчаў — і кінулі, як непатрэбны груз. Напачатку жыў Віктар Іванавіч ў хаце брата Юліся, потым сышоў у самаробную зямлянку на ўскрайку сяла.

### Ці пісаў паэт вершы ў зямлянцы — загадка шостая?

Як жыў да прыезду мінскіх калег?

Пра гэта лепш за ўсё могуць распавесці аднавяскоўцы Казлоўскага.

Жыў — не тое слова. Галадаваў, перабіваўся з вады на хлеб. Ад братоў сышоў таму, што ўбачыў, як тым самім нясоладка прыходзіцца з вялікімі сем'ямі. Калі пачалася вайна, быццам бы крыху дапамагалі партызаны — наведваліся ў зямлянку, штосьці з ежы падкідвалі. Пасля вайны часам, вельмі рэдка, выходзіў на работу ў калгас. А найчасцей жыў сам па сабе — выходзіў у лес за дровамі ці пагрэцца ў парніку — так называлі ў Мрочках пабудову, дзе калгаснай жывёле варылі на корм бульбу. Там туліўся да гарачай печкі, дрыжэў. Атрымліваў, калі добрая душа дзяжурыла каля пліты, пару бульбін на абед. А нядобрая душа адганяла паэта-жабрака ад калгаснага катла, як прыблуднага сабаку.

Праўда, добрых людзей усё ж такі было больш: на Вялікдзень клалі яму ў кошычак шмат яек, і пірог, і кавалак хатняй каўбаскі. Усміхаўся тады паэт і ўсім дзякаваў за пачастунак.

Станіслава Кавалёва мне расказала, што калі жыў Віктар Іванавіч у іх хаце, то, здаралася, апавядаў пра мінулыя дні, паказваў старыя фотаздымкі, добра арыентаваўся ў міжнароднай сітуацыі.

А вось ці пісаў Казлоўскі вершы ў другой частцы свайго драматычнага жыцця? Душа паэта не можа без творчасці, без радкоў, занатаваных на паперы.

Дарма кажуць, што рукапісы не гараць. Яшчэ як палаюць — калі зямлянка наскрозь прамерзла, а тры паленцы ў печцы сырыя.

Пісаў на абрыўках газет і перад смерцю спаліў? Прынцыпова не браў у рукі аловак? Складаў рыфмы для сябе і чытаў іх траве, сонцу, кузурцы — толькі не людзям? Таямніца, якую паэт забраў с сабой у магілу.

А памёр ён 24 лютага 1975 года, паводле сведчанняў аднавяскоўцаў, вось як. Суседзі ўбачылі, што каторы дзень зачынены дзверы ў хату Казлоўскага. Загрукалі, каб запытацца, — у адказ слабы енк. Калі залезлі нарэшце ў пакой, Віктар Іванавіч ляжаў хворы. Выклікалі "хуткую дапамогу", тая ў бальніцу не павезла, маўляў, позна. Перанеслі аслабелага паэта да брата, дзе і сканаў той, хто мог стаць ці то беларускім Ясеніным, ці Маякоўскім.

### Ці сапраўды паэт крануўся розумам — загадка сёмая

Дзякуй Віктару Сабалеўскаму, рэдактару ўздзенскай раёнкі, — падказаў прозвішчы старажылаў Мрочак, якія добра памятаюць Віктара Казлоўскага.

"Ну няўжо ён сапраўды крануўся розумам? — задавала я сваё пытанне сведкам апошніх год паэта. І агульны лейтматыў адказаў быў такі: не, не падобна на тое! Вёў сябе Віктар Іванавіч годна, ні людзей, ні дзяцей не чапаў, мог пагаварыць з аднавяскоўцамі і пра палітыку, і пра эканоміку. Размаўляў на абедзвюх мовах цудоўна — што на беларускай, што на рускай.

Феня Сямёнаўна Рудкоўская добра памятае былога аднавяскоўца:

— *Спакойны быў чалавек, нікому нічога злога не зрабіў. І нават у старасці прыгожы — валасы кучаравыя, сам шчуплenькі. Заўсёды вітаўся з мужыкамі і пагаварыць мог разважліва. Я, калі міма іду, бывае, што запытаюся, адкажа разумна. Не, не баяліся мы яго, бо бачна было, што не пакрыўдзіць ён нікога. І мы яго стараліся не крыўдзіць.*

Безумоўна, былі дзівацтвы.

Так, прыходзіў раз-пораз у краму за бутэлечкай, сарамліва тлумачачы: "Каб стала лягчэй".

Так, бывалі раз-пораз прыступы, калі браў тапор у рукі і пачынаў нешта мармытаць сабе пад нос і секчы вугал хаты. Быццам бачылася яму ў такія моманты страшнае — што ідуць па яго, хочуць забраць некуды...

Але ж усе мы ў моманты хвалявання можам паступаць, мякка кажучы, не зусім адэкватна.

Так што на сваё сёмае пытанне пра паэта мне хочацца даць такі адказ: а ці не быў гэта свядомы крок? Уцёкі ад страшнай рэчаіснасці? Унутраная эміграцыя? Спроба захаваць чалавечую годнасць? Бо лепш стаць для ўлады вар'ятам, чым гнюсным стукачом.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

### З пісьменніцкіх баек

**Перад вайной Беларускі Літфонд адправіў Казлоўскага разам з яўрэйскім паэтам Ізем Плаўнікам, родным братам Змітрака Бядулі, на лячэнне ў Маскву. Павёз іх туды сам дырэктар Беллітфонду Мірон Левін. У фае бальніцы ён загадаў падапечным чакаць яго, а сам пайшоў шукаць патрэбнага прафесара. Той жа якраз спускаўся і размінуўся з Левіным. Даведаўшыся, што перад ім прыезджыя з Мінска, пытаецца: "Гэта вы прывезлі на кансультацыю пісьменнікаў? Дзе ж яны?" "Дык адзін у Маскву збег", — адказвае Казлоўскі. "А другі толькі што пабег па калідоры", — дадае Плаўнік і паказвае рукой у той бок, куды пайшоў Левін. Прафесар дагнаў Левіна і павёў у свой кабінет. Пакуль разабраліся з непаразуменнем, хворыя паэты і сапраўды збеглі з бальніцы.**

### ТЫМ ЧАСАМ

26 мая ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва прайшлі XIV Узвышаўскія чытанні на тэму "Літаратурны працэс 1920—1930-х гадоў. Час. Асобы. Творы". Сярод слаўных імён было ўзгадана і імя Вінцуся (Віктара) Казлоўскага. Дзякуючы намаганням дырэктара архіва **Ганны Запартыка** фонд паэта, яшчэ нядаўна вельмі сціплы, папоўніўся цікавымі дакументамі і арыгіналамі вершаў. Якім цудам яны патрапілі сюды — асобная гісторыя.

### ДАРЭЧЫ

Студыя "Беларусьфільм" рыхтуе дакументальны фільм пра В.Казлоўскага, які здымае малады рэжысёр Ігар Чышчэня.

ПУЛЬС

### Новый рынок?

Беларусь готова принять участие в строительстве канала между Атлантическим и Тихим океанами. Такое заявление сделал министр иностранных дел **Владимир Макей.**

*"В Никарагуа приступили к практической реализации амбициозной, очень интересной идеи строительства межокеанского канала — между Тихим и Атлантическим океанами. Для нас этот проект представляет реальный, конкретный интерес в контексте поставок туда большегрузной техники "БелАЗ", грузовых автомобилей "МАЗ", дорожной техники",* — отметил глава МИД.

### Провал в математике

Около 25 тысяч абитуриентов не смогли набрать минимальные 15 баллов на централизованном тестировании по математике.

И это при том, что в тестировании принимали участие чуть больше 62 тысяч человек. То есть минимальные знания по этому предмету не показал почти каждый второй абитуриент. 132 человека вообще написали тест на 0 баллов, то есть не выполнили ни одного задания.

Об этом сообщил директор Республиканского института контроля знаний **Николай Феськов.**

### Дело о рабстве

Задержан житель Лидского района, подвергший принудительной трудовой эксплуатации 16 граждан Вьетнама.

Нелегальные мигранты, 1985—1995 годов рождения, временно находились на территории региона. Задержанный, 1966 года рождения, организовал их перевозку для последующего перехода госграницы Республики Беларусь в страны Евросоюза.

Преступления выявлены пограничниками Лидского пограничного отряда. Дело возбуждено по ч.2 ст.371-1 УК Республики Беларусь (организация незаконной миграции) и по ч.2 ст.181-1 УК Республики Беларусь (использование рабского труда). *"Задержанному предъявлено обвинение в совершении указанных преступлений, избрана мера пресечения в виде заключения под стражу,* — сообщил официальный представитель УСК по Гродненской области **Сергей Шершеневич.** — *Следствие подвергло аресту его имущество, в том числе два автомобиля".*

Нелегальные мигранты будут депортированы из Беларуси.

СТРАТА

### Бывайце, Мікола Іванавіч!

Яшчэ адна горкая страта для беларушчыны: не стала адоранага журналіста і літаратара, даўняга сябра і аўтара "Народнай Волі" **Міколы Іванавіча Дзелянкоўскага.**

...Калі на канверце ў рэдакцыйнай пошце было пазначана яго імя, то яшчэ да чытання самога допісу можна было чакаць: хутчэй за ўсё і тут — нешта цікавенькае... А "цікавенькае" было ў тым, што, пазбягаючы груваcткіх агульных разваг аб даўно ўсім вядомым і казаным-пераказаным, Мікола Іванавіч дзяліўся з чытачом сваімі трапнымі назіраннямі над канкрэтнымі, але характэрнымі з'явамі, выпадкамі, сустрэчамі ў паўсядзённым жыцці, якія зазвычай прапускае міма вачэй і вушэй не надта ўдумны чалавек: яны яго папросту не чапляюць.

А вось Міколу Іванавіча яшчэ як чапляла. І ён не проста "фатаграфаваў" на паперы сустрэтае, а глыбока асэнсоўваў, улоўліваў сутнасць штодзённых дробязяў, што здаюцца камусьці не вартымі ўвагі. З-пад яго пяра паўставала праўда.

Апошнім часам публікацыі нашага раней актыўнага аўтара на старонках газеты, на жаль, з'яўляліся ўжо радзей, чым хацелася: стаў моцна падводзіць зрок. 29 чэрвеня, зусім нечакана, сэрца спынілася.

Мікола Дзелянкоўскі памёр на 83-м годзе жыцця. Непапраўная страта для яго родных, чытачоў нашай газеты, паплечнікаў па Саюзе беларускіх пісьменнікаў, сябрам якога быў. Мы шчыра падзяляем боль страты з усімі, хто яго ведаў і любіў.

Зямля Вам пухам, шаноўны Мікола Іванавіч! А нам застаецца помніць і дзячыць, што побач з намі жыў і тварыў такі багаты душою і талентам, нераўнадушны чалавек.

**Калектыў рэдакцыі "Народнай Волі".**

МНЕНИЕ

## Объединяйтесь, а не разъединяйтесь

Пишу, в очередной раз обращаясь к оппозиции. Хочу, чтобы до каждого активиста дошло наконец понимание того, что, только объединившись, можно чего-то добиться.

На возможном конгрессе демократических сил каждый кандидат в единые, чувствую, будет тянуть одеяло на себя и представляться лучшим из лучших. Именно это и на руку нынешнему президенту: мол, деритесь сколько угодно, только не объединяйтесь.

Следует отбросить личные амбиции и выработать единый план действий. Иначе старуха-оппозиция опять останется у разбитого корыта без золотой рыбки.

**Владимир СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

РЕЗОНАНС

## Некорректное сравнение

Внимательно прочитал публикацию В.Дашука “Последний репортаж из клетки для кроликов”. В общих чертах согласен с точкой зрения автора, если б не один нюанс...

Цитирую: *“Нищие люди не могут быть справедливыми по определению, ими движет только чувство мести...”* Это о сепаратистах юго-восточной Украины.

Конечно, если сравнивать тот же Донбасс с Европой, то налицо явный контраст. Касательно России, где дармовые газ и нефть льются рекой, сравнение некорректно. В отношении стран СНГ существенной разницы не вижу. Если в Беларуси зарплаты и пенсии несколько выше, то в Украине всегда были ниже цены на многие продукты. Пенсионерам предоставлялись всевозможные льготы: по оплате коммунальных услуг, проезду в общественном транспорте, детям войны и прочие. Я в этом убедился, часто посещая Украину.

Так что некорректно выразился уважаемый автор.

**В.БИСЮК.**

*Гомель.*

ТАК ДУМАЮ

## Из другого теста?

В последнее время очень много ведется разговоров о строительстве детского хосписа. Этому вопросу уделяют внимание Белорусское телевидение и редакции многих газет. Работники культуры устраивают благотворительные концерты и так далее. Многие граждане Республики Беларусь вносят свои пожертвования в эту копилку, а некоторые при всем желании это сделать не имеют возможности. К последней категории относятся пенсионеры, студенты, учащиеся...

В то же время намечается строительство за бюджетные средства нового лечебного учреждения — так называемой президентской больницы. На мой взгляд, было бы более справедливо за бюджетные средства построить республиканский детский хоспис, где могла бы оказываться медицинская помощь детям со всей страны, а президентскую больницу построить за счет средств тех, кто там будет проходить лечение. Категория этих лиц наверняка уже известна.

А вообще, надо подумать, стоит ли ее строить. Зачем разделять людей на категории? Ведь все мы сотворены из одного “теста”. Было бы значительно лучше, если бы все чиновничество во главе с президентом поправляло свое здоровье со всем народом — так, как это принято в большинстве стран. У чиновников не худшие условия труда, чем у шахтеров, химиков, строителей, металлургов. При таком подходе значительно улучшилось бы все медицинское обслуживание, повысилась бы заработная плата медицинских работников, снизилась бы текучесть кадров, и многие классные специалисты не стали бы уезжать в другие страны на заработки.

**С уважением —**

**Василий Васильевич РАКОВЕЦ.**

*Минск.*

ПОЗИЦИЯ

## На льва деньги нашли, а на партизан — нет!



Прочитал статью Елены Молочко, и на сердце легла тяжесть. Е.Молочко пишет: “Еще с эпохи Возрождения в европейском искусстве и архитектуре скульптуры львов использовали как элементы украшения входов во дворцы, как детали парковых городских фонтанов”. Это верно, но это все говорит о том, что есть изобилие и достаток, что больше не на что тратить казну, что у людей роскошная жизнь, и много еще о чем. Но мне кажется, что кто-то прикрывается этим львом. Неужели в Несвиже не нашлось ни одной достойной исторической личности, партизана, командира, преданного сына белорусского народа, чтобы поставить ему памятник?

Такую скульптуру, как лев, я считаю, надо ставить не на перекрестке улиц и дорог, где ходят машины, а в парках, скверах и на площадях, чтобы они символизировали мощь и силу государства, как у нас, например, возле Дома правительства, где уже много лет стоит памятник вы знаете кому. Во многих государствах львы изображены на гербах, иногда по два и по три. А мы в таком городке, как Несвиж, поставили такую скульптуру.

Я долгое время живу в Бресте. У нас много памятников защитникам Брестской крепости, сам мемориал о многом напоминает. Есть улицы, носящие имена героев. Есть скверы, названные в честь того или иного военного деятеля. Есть у нас и Партизанский проспект, но почему-то памятников партизанам родной Беларуси нет. На памятник льву деньги находятся, а на памятник партизанам — нет...

**Анатоль МОТУЗ.**

*Брест.*

КРИК ДУШИ

# Куда вы, Александр Григорьевич, смотрите?

## *Обращение к президенту Республики Беларусь*

Я хочу, чтобы меня услышал президент Республики Беларусь как гражданку, а не только как жену осужденного. Мои многочисленные обращения во всевозможные инстанции не дали никаких результатов. Ответ один: все решают правоохранительные органы. Поэтому я и хочу, Александр Григорьевич, чтобы Вы меня услышали и посмотрели, что у нас делается в этой “честной” правоохранительной системе. Достучаться до Вас можно только через “Народную Волю”, а знать Вы должны все-таки обо всем.

25 июня 2014 года моего мужа, Леонида Ивановича Шилько, бывшего главного врача Костюковичской центральной районной больницы, суд Краснопольского района Могилевской области осудил на 6 лет лишения свободы с содержанием в колонии усиленного режима и с конфискацией имущества, 15 миллионов штрафа и запрет работать руководителем в течение пяти лет. Такой суровый приговор вынесен за 56 миллионов белорусских рублей якобы причиненного ущерба. Так поступили с пенсионером, инвалидом, доктором, о котором абсолютно все могут сказать только хорошее.

В 2012 году моего мужа следственные органы довели до инсульта, он дважды перенес инфаркт миокарда, страдает ишемической болезнью сердца со стенокардией и нарушением ритма, сахарным диабетом. Последнее время его беспокоит кишечное кровотечение неясной этиологии. И разве такой человек может находиться в тюрьме усиленного режима 6 лет? Он и сейчас, в эти минуты, когда я пишу письмо, лежит в реанимационном отделении Краснопольской ЦРБ. Не надо быть врачом, чтобы понять, что это очень тяжело больной человек, — стоит только посмотреть на его синие губы.

Почему моего мужа “закатали” в тюрьму на мучительное умирание, хотя закон предусматривает для пенсионеров и инвалидов отсрочку в исполнении приговора? Чтобы жить, ему постоянно нужен кислород, а не душная камера. Я это понимаю как врач, терапевт, кардиолог, функционалист с огромнейшим опытом работы. Муж не проживет 6 лет в таких условиях. И при этом суд, будто в насмешку, вынес дополнительное наказание — пятилетний запрет на работу в руководящих должностях. Но он и сейчас работать не может, он инвалид.

14 июня мы находились в родительском доме в поселке Богушевск Витебской области, мужу было так плохо, что он от боли терял сознание. Еще не зная, каким будет приговор, муж, будучи в тяжелейшем состоянии, просил лишь об одном: дайте хотя бы умереть в своем доме, а не на чужбине, как собака. Я уверена, что перед нашим государством хотя бы это он заслужил. Но я и моя семья в нашем доме его больше не увидим, потому что судья конфисковал этот дом, который достался нам по наследству и принадлежал не нам, а нашему сыну с семьей. И тем не менее судья пошел даже на такой шаг.

За что?

Почти год длилось следствие, следователи собирали даже коробочки из-под лекарств от сахарного диабета, выискивая возможность обвинить мужа в лишней съеденной таблетке, хотели доказать, что скандал в 2012 году, когда мужа из реанимации перевезли в УКГБ по Могилевской области, оправдан.

Потом восемь месяцев дело находилось в суде. Как и почему оно попало на рассмотрение в Краснополье, к которому мы никогда не имели никакого отношения, мне совершенно не понятно. Возможно, это в пределах закона, но, извините, наталкивает на мысль, что судья из глубинки районного уровня просто взял под козырек.

Так оно и оказалось. Какой текст обвинения был передан в суд, такой и был оглашен прокурором и судьей. Зачем вообще было делать вид, что идет разбирательство?

Мужа-инвалида даже возили в Минск на выездные заседания, но и там свидетели никаких показаний против него не дали. Водитель и механик на суде признались, что воровали запчасти, но они не получили за это наказания, за все ответил муж. Лишь один человек в обмен на свободу в суде оклеветал моего мужа, сообщил, что положил две или три запчасти ему в машину, но даже не смог назвать, какие именно. Кроме него, как выяснилось, за почти четыре года работы мужа в Костюковичской центральной районной больнице ни один человек не видел, чтобы ему передавали казенные запчасти или бензин. Люди говорили про это в суде. Но ни судья, ни прокурор не хотели даже слышать доводы здравого смысла.

По этому злополучному бензину муж на суде дал полную раскладку. Он доказал, что если бы водитель сливал ему столько бензина, сколько “насчитало” следствие, то для своей повседневной работы в ЦРБ он должен был покупать бензин для служебной машины за свой счет. Однако разве является доказательством здравый смысл?

Один из свидетелей на суде указывал, что не мой муж, а именно данный водитель продавал ему бензин. Но и на эти показания-доводы судья не обратил никакого внимания.

Вот такое оказалось “воровство”! Никто ничего не видел и не слышал, ни один человек в больнице ничего не знает и не мог заподозрить.

Отдельно хочу рассказать о том, по какой логике следователи вообще решили, что водители больницы крали бензин. Основное доказательство — это мобильный телефон: “пробивался” (фиксировался сигнал) или “не пробивался” в соответствии с маршрутом путевого листа в указанное время. Никто и не учитывал, что путевки оформлялись через один—три дня после поездки. Ну как может водитель задним числом указать точное время в путевке, как по таким ориентирам можно “пробивать” телефон? А может, человек вообще забыл дома свой телефон? Что это за “доказательства” такие: раз “не пробивался” телефон — то не было и поездки? Тем более что ни один водитель не подтвердил, что выписывались ложные путевые листы. Но даже если закрыть на все глаза и признать, что кто-то из водителей крал бензин, при чем тут мой муж, главный врач больницы? Почему эти претензии не адресовали ни механику, ни начальнику технического отдела?

Механик давал водителям расписаться за получение каких-то запчастей. Но ни один водитель не подтвердил, что это муж просил это сделать. Все равно виноват!

Дошли до того, что одному из водителей приписали украденный бензин, сверяя с путевыми листами... сведения о номере телефона его матери. А как он мог “пробиваться” на работе у сына-водителя?

Но судье и на это было наплевать — набирали сумму, чтобы выйти на статью “в крупном размере”. Мужа обвинили даже в том, что он подписывал отдельные путевки, но сам никуда не ездил. Но разве не может руководитель отправить водителя с какими-то поручениями в соседние районы (Костюковичская ЦРБ — это межрайонный медицинский центр) — отвезти документы или что-то получить там? Неужели руководитель должен по каждому делу ездить лично?

Мужа обвиняют в использовании служебного положения по следующим позициям:

1.У одного из водителей больницы две дочери учатся в Витебске. Он и сейчас к ним ездит на личном автомобиле. Где-то два раза в год мой муж с ним подъезжал до Витебска и возвращался обратно.

2.Несколько раз муж приезжал по служебным делам в Витебск, где встречался с врачами, приглашая на работу в глубинку. Естественно, одновременно заезжал домой. Эти поездки дали плоды: Костюковичский район, в отличие от многих других, полностью укомплектован медицинскими кадрами. Но и это расценено как злоупотребление.

3.Машина одной из организаций Костюковичей ехала на завод в Витебск, и мой муж попросил попутно довести груз. Страшное преступление, не правда ли?..

4.Перед приездом какой-то комиссии муж попросил меня подготовить папки с приказами, документами, медицинской литературой (ведь он приехал в районный центр, где не все документы имелись). Водитель приехал, все забрал и уехал. “Преступление” в том, что водитель ехал за документами и привез с собой мастера, который в течение 15—20 минут осмотрел у нас дома колонку.

5.В один из выходных дней на нашей личной машине водитель привез нам брикет, который мы купили за свои деньги. За поездку мы ему заплатили деньги и дали небольшой презент. Водитель подтвердил на суде, что это было в выходной день. Тем не менее “руководитель эксплуатировал подчиненного”.

6.И самое неприятное. 25 мая 2009 года из Костюковичей на похороны отца водитель привез венки от райисполкома и больницы. Этот день также указан в обвинении как день совершения преступления.

Любому здравомыслящему человеку, как мне кажется, понятно, что это заказное дело. **Я по-прежнему считаю, что с мужем свел счеты КГБ за то, что мой муж отказался прикрывать ДТП, совершенное сотрудниками КГБ в пьяном виде.**

Сейчас на горьком опыте я убедилась и в “независимости” наших судов. Все наши знакомые, даже сотрудники правоохранительных органов, содрогнулись, узнав о таком приговоре мужу. Люди говорят: шесть лет ему дали просто ни за что! А в Краснопольском суде “доброжелатели” нас еще и предупреждают: если будете обжаловать приговор, если будете поднимать скандал, еще больше получите.

Так где справедливость, о которой Вы, Александр Григорьевич, так часто говорите? Где независимый и объективный суд? Все, в чем обвинили моего мужа, я описала. Разве приговор справедлив?

Я понимаю, что нужно бороться с коррупцией. Но если правоохранители будут брать с потолка обвинения, чтобы только свести счеты и посадить неугодного человека, то наша страна никогда не продвинется вперед.

Вы говорили, Александр Григорьевич, что стране не хватает толковых руководителей. А кто пойдет на руководящие должности, если возможны такие расправы?

Вы говорили, что незачем держать в тюрьмах людей, даже если они провинились, если, конечно, это не убийцы и не насильники, опасные для общества. Так чем опасен для государства мой муж, который всю жизнь только и делал, что спасал жизни другим людям? Почему он оказался в тюрьме?

Получается, что от имени белорусского государства у нас можно растоптать, унизить и уничтожить человека. Его ни за что можно похоронить в тюрьме.

В этом обращении я изложила достоверную информацию и осознаю полную ответственность за сказанное. Увы, Александр Григорьевич, все описанное мной правда. И я не понимаю: как Вы могли такое допустить, куда Вы смотрите?

Помогите восстановить справедливость, спасти человека, который так много сделал для страны, для ее людей.

**С уважением —**

**Алла ШИЛЬКО, жена бывшего главврача Костюковичской центральной районной больницы.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ



## Цішыня

Адключылі правадное радыё, якое для многіх было асноўнай крыніцай інфармацыі і субяседнікам, замяняла гадзіннік і будзільнік. З радыё мімаходзь можна было пачуць і навіны, і прагноз надвор’я, і класічную пастаноўку кшталту “Паўлінкі” ці “Альпійскай балады”, прычым на добрай беларускай мове, і наіўныя шчырыя віншаванні слухачоў сваім блізкім.

Маладыя, пэўна, не зразумеюць, у чым праблема: маўляў, радыё — гэта ж мінулы век, цяпер ёсць тэлевізар, камп’ютар, мабільнік. А я ўяўляю вясковую хату, адзінокую бабулю, якая разгублена тупае з кута ў кут, агаломшаная нязвыклай цішынёй, адчуваннем адарванасці ад свету і з сумам пазірае на анямелы рэпрадуктар.

Думаю, што тыя, хто прымаў рашэнне адключыць (знішчыць) сеткавае радыёвяшчанне, абгрунтуюць гэта эканамічнай мэтазгоднасцю і параяць набыць хвалевы радыёпрымач. Падыміце рукі, хто набыў! У якой вясковай краме ці аўталаўцы вы яго знайшлі і ці была гэта пакупка эканамічнай?

Канешне, навіны можна даведацца і без радыё, не вялікая страта не пачуць штодзённыя выказванні прэзідэнта — надакучыла за 20 гадоў, раздражняе.

Галоўнае, што мы страчваем, — гэта беларуская мова, якая па радыё ўсё ж гучала больш, чым з іншых крыніц. Не ўсе радыёслухачы на ёй размаўлялі, але слухалі і разумелі. Цяпер, можа, хутка і разумець перастануць. Адключэнне сеткавага радыёвяшчання — гэта чарговы крок улады, накіраваны на знішчэнне беларускай мовы. І не чуваць галасоў ні абурэння, ні пратэсту.

Сумная цішыня.

**Валянціна ГАРКУН.**

*г.Бешанковічы.*

АСАБІСТАЕ

## Якія бацькі — такія і дзеці

У выхаванні дзяцей вельмі важны прыклад бацькоў. Калі бацька паліць, то, што б ён ні казаў сынам пра шкоду курэння, яны потым таксама будуць паліць.

Наш бацька загінуў на фронце 29 сакавіка 1945 года пры штурме Данцыга (Гданьска). Маці адна гадавала нас, пенсіі за бацьку не хапала, і яна трохі прыгандлёўвала на базары. А базар у нашым Лунінцы быў вялікі. Там можна было пачуць усе навіны і купіць што заўгодна, былі б толькі грошы. Цяпер на яго месцы адбудаваўся цэнтр горада, а калгасны рынак знаходзіцца ў іншым месцы.

На базары нават праводзілася публічнае пакаранне “памагатых фашыстаў”, паглядзець на якое сабралася шмат людзей. Мы стаялі на вуліцы каля доўгага шэрагу крам і бачылі толькі верх шыбеніцы. Нейкі дзядзька пасадзіў мяне на плечы, і я бачыў, як пад’ехала машына, зачыталі прыгавор, машына ад’ехала — і на шыбеніцы засталіся вісець чацвёра мужчын. Віселі яны і на наступны дзень, але потым раптоўна зніклі разам з шыбеніцай, бо яшчэ ў першую ноч нехта ўхітрыўся сцягнуць з аднаго боты.

Але я бачыў і іншыя прыклады. Аднойчы зімой маці ўзяла саначкі і пайшла на базар купляць драўляную бочку: трэба было пашаткаваць і заквасіць у ёй капусту. Яна доўга шукала і нарэшце ўбачыла дзядзьку, які сядзеў на бочачцы з сумным выглядам. Калі маці запытала яго, ці не прадаецца яна, ён узрадаваўся і нават згадзіўся паменшыць цану. Яны з жонкай ужо прадалі ўвесь свой тавар, акрамя бочачкі, і жонка пайшла шукаць знаёмых, а дзядзьку таксама хацелася расслабіцца і папіць піва. Узяўшы ў маці грошы, ён адразу пабег у закусачную, а маці паставіла бочачку на санкі і паехала дахаты.

Дома маці адкрыла вечка бочачкі і аслупянела: там ляжалі грошы. Яна закрыла вечка, паставіла бочачку на санкі і павезла яе зноў на базар. На тым месцы ўжо стаяў натоўп людзей і слухаў, як жонка лаяла таго дзядзьку. Калі маці пад’ехала, яна і на яе пачала лаяцца. Тады маці сказала, што яна ні ў чым не вінаватая, не чапала яе грошай і няхай яна іх забірае. Беручы грошы, жонка яшчэ нешта бурчэла і нават не дала маці пару рублёў за сумленны ўчынак.

Потым, калі маці ўжо працавала прыбіральшчыцай у сталоўцы і крамах, яна неаднаразова знаходзіла грошы ў кашальках ці загорнутыя ў хусцінку, але заўсёды прыносіла іх да загадчыц, гаварыла: можа, хто будзе шукаць згубленыя грошы... Але тыя толькі ўсміхаліся і клалі грошы сабе ў кішэню.

Думаю, вы зразумелі, да чаго я вяду. Якія бацькі — такія і дзеці.

**М.А.БОГДАН, жыхар Гродна.**

РЭХА

# Пярэпалах

*У “Народнай Волі” за 10 чэрвеня прачытала матэрыял Міхаіла Жукава з Баранавічаў. Ён называецца “Пашкадаваў зайцоў і... трапіў у лапы мядзведзя”. Аўтар піша: “Даўно гэта было, а не забыўся пра ўседазволенасць і здзекі партыйна-савецкіх наменклатуршчыкаў, якія, ахоўваючы гонар сваіх мундзіраў, маглі нізашто знішчыць любога нязручнага ім чалавека, пазбавіць яго кавалка хлеба”. У маім жыцці было нешта падобнае. Праўда, з працы нікога не звольнілі, але нерваў патрапалі нямала.*

А было так. Настаўнік беларускай мовы Раготнаўскай сярэдняй школы Мікалай Паўлавіч Грышан, які з’яўляўся членам літаратурнага аб’яднання “Пралескі” пры рэдакцыі дзятлаўскай райгазеты “Перамога”, даслаў свой твор пад рубрыкай “Быль” і пад загалоўкам “За пяць хвілін да ўрока”. Гаворка ішла аб тым, што ў школу прыехаў намеснік старшыні райвыканкама і за пяць хвілін да ўрока з-за нейкай драбязы сапсаваў настаўнікам настрой. Абуты той начальнік быў у чорныя бліскучыя туфлі. Твор неўзабаве быў змешчаны на “Літаратурнай старонцы”.

Газета выйшла ў суботу, і тагачасны намеснік старшыні райвыканкама адразу ж паззваніў рэдактару дадому і патрабаваў неадкладна напісаць абвяржэнне і даць у наступным нумары. Рэдактар патэлефанаваў Мікалаю Паўлавічу.

— Давай, браток, вязі абвяржэнне, а то будзе бяда...

— Якое абвяржэнне?! Я меў на ўвазе не гэтага чалавека. Ды і наогул такое было не ў Дзятлаўскім раёне.

— Нічога не ведаю. Вязі, калі не хочаш мець яшчэ большыя непрыемнасці. У намесніка ёсць чорныя бліскучыя туфлі. Вось ён і падумаў...

У панядзелак раніцай Мікалай Паўлавіч ужо быў у рэдакцыі з тым абвяржэннем-тлумачэннем, а ў газеце за аўторак яно выйшла ў свет. Здавалася б, той намеснік старшыні райвыканкама павінен быў супакоіцца. Дзе там! Праз невялікі прамежак часу на адным з пасяджэнняў выканкама на абмеркаванне было вынесена пытанне “О публикации в районной газете непроверенных фактов”. Рэдактара паклікалі на пасяджэнне, а ён паклікаў туды і мяне.

— Пайшлі разам, — кажа, — ты вядзеш “Літаратурную старонку”, то ідзі і апраўдвайся.

Прыйшлі. Кабета, што вяла пасяджэнне, зачытала наша пытанне.

— Что вы можете пояснить по данному вопросу? — строга спытаўся ў рэдактара старшыня райвыканкама.

Рэдактар стаяў, бы двоечнік перад дырэктарам школы.

— Ну, газета дала маху... — прамовіў пакорліва. — Я не ведаю, як гэта атрымалася...

— Пачакайце, зараз патлумачу, — устала я са свайго месца. — Нічога дрэннага мы не зрабілі, нікога не пакрыўдзілі. Тым больш што Мікалай Паўлавіч ужо і прабачэнне папрасіў на старонках газеты. Праўда, толькі не ведаю за што. І чаго гэта вы так спалохаліся? Што, і самі можаце паступіць так, як той намеснік старшыні?

— Смотри, какая смелая! — са здзекам сказаў адзін з членаў выканкама.

— Ага, — кажу, — смелая, бо баяцца мне няма чаго. А калі вы баіцеся, то хоць бы не прызнаваліся ў гэтым. І потым... Што, у раёне больш няма пытанняў, якія трэба абмяркоўваць?

У кабінеце стала ціха-ціха. Усе глядзелі на мяне — хто з асуджэннем, хто з адабрэннем, а большасць з недаўменнем: як гэтая, “мелкая”, асмелілася ўзняць голас супраць?!

— Лена, выйди из кабинета! — закрычаў старшыня райвыканкама і ад абурэння ажно прыўзняўся над сталом. — Запомни, тебе жить и работать в районе!

— Нічога, буду жыць і працаваць. Вось скажу ўсё, што думаю, і выйду.

Я разумею рэдактара: ён быў камуністам і баяўся пакарання, таму і казаў, што газета дала маху. А я была беспартыйная. І ўсё жыццё цярпець не магу несправядлівасці. Каралі за непакорлівасць часта. Але ў гэтым выпадку ні рэдактара, ні мяне, ні Мікалая Паўлавіча Грышана не пакаралі. Загадка...

Імён людзей не называю, бо было гэта вельмі даўно. Адных ужо няма на свеце, другія па розных прычынах з’ехалі з раёна. Засталася толькі памяць пра тое, як начальнікі баяліся плямаў на сваіх прыгожых мундзірах. Нават тады баяліся, калі гэтых плямаў і не было. Абсурд...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

